● МЫСЛИ ВСЛУХ

# А заплатить придется

Наступил новый учебный год. Такой праздничный для первоклашек, ответственный для выпускников, всегда тревожный для родителей и, чего греха таить, обыденный для учителей. Некоторым учителям перед его началом было „и скучно, и грустно, и некому руку подать". По многим пунктам первый педсовет в некоторых школах был невесел. А все потому, что забыло государство посоветоваться с народом: можно ли экономить на школе?

Стало модно в государстве нашем в последнее время проводить всякие референдумы, советоваться с народом.

Давайте и мы проведем с вами, уважаемые родители, если вам не безразлично будущее наших детей, своеобразный референдум или, проще говоря, родительский совет.

**Пункт первый.** Согласны ли вы с тем, что дети младших классов небольших сёл будут объединяться в два класса (из-за отсутствия нужного количества учеников)?

Как это будет выглядеть и как уже выглядит на практике? В одном помещении занимаются с одним учителем ученики 1-го, 2-го, 3-го класса. Там в углу учат писать букву „А", во втором углу – решают задачки, в третьем – пишут диктант.

А молоденькая девчонка-учительница пытается и тем, и другим „частинку души отдать". Не получается, она уже начинает кричать от тщеты усилий на непосед, после – опускает руки и начинает думать о предстоящем свидании.

Сельскую учительницу постарше ждут дома свои ненакормленные дети, куча нестиранного белья, скотина в хлеву (тоже голодная), встреча с пьяным мужем (и такое может быть) и еще масса всяких мелких и покрупнее дел и хлопот. После всех этих перспектив свой, святой труд, становится неприятной повинностью.

Так вы согласны с этим?

**Пункт второй.** Согласны ли вы с тем, что в вашей школе отсутствует группа продленного дня?

Вот отзвенел звонок, сейчас малышам можно и мяч погонять, и в лес сходить, и со спичками возле сарая побаловаться. Уроки – потом! Вечером, после всяческих хозяйственных забот, вы готовы с детьми посидеть над уроками, или хотя бы проконтролировать их выполнение? Если да, то вы – отличные родители. А если нет, то подписывайтесь – группе продленного дня быть!

Тогда у ваших детей есть шанс придти домой сытыми, и с выученными уроками, довольными. Тогда и ремень, как средство воспитания, вам не понадобится, и ребенок будет засыпать дома в кровати, а не в углу. А если он у вас способный, то не мешкайте, отдавайте его в музыкальную школу (вдруг есть в вашей деревне такая), в кружок художественный, в секцию спортивную.

**Пункт третий.** Согласны ли вы с тем, что организаторы внеклассной работы в школе переведены на полставки?

Тот же звонок отзвучал, а вы никак не можете дождаться со школы своих старшеклассников. Но вы спокойны – там у них в школе КВН с заводным организатором (теперь без галстука), или репетиция в актовом зале какого-то вечера, где массовик-затейник (заместитель директора по воспитательной части) готовит с талантами школьными, какие всегда найдутся, что-то интересное.

Да нет сейчас такого, скажите вы. Может уже и нету. И не будет. Ведь немного наработаешь, получая только половину зарплаты. Какие мероприятия можно от души проводить, зная, что труд оценивается только вполовину?

А школа, обычно такая шумная по вечерам, сегодня тихая-тихая к радости техничек и сторожей. А любящие сцену старшеклассники изберут своим залом темные деревенские улицы. Светомузыку дискотек школьных – яркие ночные звезды, бестолковая толкотня у клуба и т. д.

**Пункт четвертый.** Слава Богу, наши дети еще любят читать. Что ни говори, а книга – светоч знаний. Да вот беда: не всегда им открыты двери библиотек. И везде ли есть библиотекарь оплачиваемый, готовый помочь ребенку найти заветную книжку?

Вы, товарищи родители, согласны с таким порядком вещей?

Нет? Тогда запасайтесь нужной литературой. Дорого? Да, дорого, да еще и нет ее – хорошей, нужной, интересной. Много ли вы встречали в магазинах книг на белорусском языке? Много ли встречали классики?

Остановимся. Наш „референдум" закончен. Не перечесть всех школьных проблем, и многие из них упираются в слово „деньги". Скупой, как известно платит два раза. Сдается мне, что деньги, не затраченные на детей теперь, нам придется отдавать с лихвой.

**А. ВАСИЛЬЕВ.**
**(фамилия автора изменена по его желанию)**
**д. Вулька-Обровская.**

● САТЫРЫЧНЫМ ПЯРОМ

# Даеш рэферэндум!

*Прывітанне з сяла Апошнія Ёлупні!*

*Даўненька не браўся я за ручку – час у нас дужа неспакойны. Ад тэлевізара адарвацца не магу, радзіва на ўсю катушку ўключана, газетамі хату заваліў. Што на свеце дзелаецца!*

*Хачу вам, таварышы, прама сказаць – усё правільна. А вот, што прэзідэнт наш гаворыць, то ўсё правільна. Не даюць яму, панімаеш, работаць, паляпшаць нашу жызню. Захацеў прэзідэнт са мной пасаветавацца. Харошае дзела! Чаго вэрхал паднімаць, замінаць харошаму чалавеку з другім харошым чалавекам пагаварыць?*

*Я, панімаеш, саветы даваць люблю. Навучыўся за 70 гадоў уласці Саветаў.От, наконт зямлі скажу так: зямлю не прадаваць! Што, панімаеш, будзе, ежалі ёю гандляваць? Мой сусед, які з калгаса рвецца, адхопіць сабе гектараў дваццаць. Пачне, панімаеш, эксплуаціраваць народ. Я яго кулацкае нутро ведаю – ён дняваць і начаваць на зямлі будзе. І зажыве, панімаеш, лепш за мяне. Кукіш яму! Няхай у калгасе працуе.*

*А як усе захочуць зямліцы? Калгаса ж не будзе, то мне куды дзявацца, самому на зямлі той горб нажываць? Няма дурных!*

*Канстытуцыю новую нам прымаць, панімаеш, нада. Я – за новую Канстытуцыю. Ну і што, што я яе не чытаў? Зато я людзей вумных па тэлевізару паслухаў, што яна харошая. Дык жа сам прэзідэнт гаворыць – нада новую. Нехта там нейкай дзіктатурай пужае., Ха, мы пужаныя. Мы от у якой стране жыць пачыналі? То та, у стране дзіктатуры пралетарыята. І нічога – выжылі. А наш прэзідэнт – самы што ні на ёсць пралетарый, з зямлі чалавек. Ось няхай і дзіктатурае.*

*А то, панімаеш, мой сусед частушку сачыніў: „Ох, раз, яшчэ раз – рэферэндумы ў нас. За народныя та грошы рабіць можна сорак раз!" Бач, асмялеў, пра Сталіна забыўся. То мы яму быстра напомнім!*

*І брэша ж гад! Народных грошай ні капейкі на рэферэндум не пойдзе! Яно то, канешна, грошы нада. Ды вот наш завод па выпуску хамутоў і аглобляў паўмільёна на рэферэндум даў. Хоць сам у даўгах і зарплату рабочым паўгода не плоціць, аднака панімаю; рэферэндум – дзела святое. Нас от папросяць – мы двух апошніх быкоў з капытоў звалім – будуць грошы. Дык чаго еты гад брэша, што грошы народныя?*

*А вот са святам етай самай, як яе там,незалежнасці, даў прэзідэнт маху. Я вот яму пасаветую, панімаеш, каб і тое аставіць, і яшчэ адно новае зрабіць. Няхай адны тады святкуюць, а мы – у другі дзень. Лішні выхадны народу нужон.*

*Так што мы – за рэферэндум. Мы, панімаеш,народ, і далжны, панімаеш, слова сваё сказаць, раз нас просяць. Камісію мы, значыць, арганізавалі вечарком са старшынёй калгасным, Яфімам Кувалдзіным. Начальнік камісіі – наш чалавек – Сямён Губашлёп. Члены – людзі надзёжныя: Антон Падхалімчук, Міхаіл Падноскін, Кузьма Прагібайла, Мікола Апахмелкін. Суседу мы рот заткнем, ежалі не перастане частушкі свае пець і народ смушчаць. Мы, канешна, за етую самую свабоду слова. У нас для етага будка спецыяльная ёсцека гуканепраніцаемая. Хочаш што казаць – заходзь, зачыняй дзверы і крычы, лай, смейся хоць над Госпадам Богам. А вот на вуліцы пець – баян паламаем. І на платах нешта там пра Беларусь пісаць – рукі павырываем. Граматны – пішы саветы, каму гэта трэба, а не паскудзь платы.*

*У канцы, панімаеш, хачу ўсім сказаць – мазгі свае сільна не сушыце, не наша ета дзела – Канстытуцыю пісаць. Ежалі сказаў наш гарачо любімы прэзідэнт, што Канстытуцыю прымаць нада – прымайце без разгавораў. Раз мы адзін раз прэзідэнту паверылі, то нада да канца верыць. Я вот веру, што ета Канстытуцыя паможа яму парадак навесці. А то распусціліся ўсе. Забыліся, забыліся пра Сталіна...*

***Яўген ЦЁПЛЯНЬКІ,***
***намеснік малодшага конюха калгаса „Уперад-абратна".***

● ЧЕРЕЗ ТЕРНИИ – К РЫНКУ

# "Мобилизация" дров на обслуживание сушилок

***Телеханский лесхоз имеет крупное сушильное хозяйство. Там пять камер, способных довести до нужной кондиции 75 кубометров сырых пиломатериалов. До апреля текущего года они работали на электродвигателях мощностью 75 киловатт каждый. Но это стало непозволительной роскошью в условиях дороговизны электроэнергии, и специалисты лесхоза стали думать, как сохранить принцип сушки и максимально – конструкцию, заменить энергоноситель.***

В качестве теплоносителя по-прежнему используется воздух. Его подогрев осуществляется с помощью топки, сходной с обычной печкой. Воздух, проходя между четырьмя десятками раскаленных труб различного диаметра, нагревается и с помощью вентиляторов попадает в сушильные камеры. Получилось что-то вроде воздушного бойлера.

В апреле на сушильное хозяйство лесхоза потрачено 100 тысяч киловатт-часов электроэнергии. За нее лесхоз заплатил 57 миллионов рублей. В мае на тот же объем высушенной древесины потребовалось 21 тысяча киловатт-часов (12 миллионов рублей), в июне – 27 тысяч. А дрова, как известно, в лесхозе ценовой стоимости не имеют, так как не являются товарной продукцией.

По предварительным подсчётам экономия составляет 96 миллионов рублей в год. Кроме этого, появились дополнительные возможности расширять сферу применения сухой древесины в качестве исходного сырья для производства качественных строительных материалов и мебельных заготовок, изделий на экспорт.

Разговор о переводе сушилок самого различного назначения на твердое топливо в лесхозах республики ведется давно. Кажется, сам Бог велел им в качестве энергоносителя использовать дрова, но этот процесс шел медленно до тех пор, пока в дело не вмешалось министерство. К сегодняшнему времени, можно сказать, произошла тотальная мобилизация дров на обслуживание сушилок. Но конструкции подобных агрегатов самые различные, как и коэффициент полезного действия.

Эффективность [illegible]ния древесины в печах сушильных агрегатов хоть и не имеет в условиях лесного хозяйства решающего значения, все-таки стоит того, чтобы об этом говорить. Предполагается, что в октябре на областном семинаре в Телеханах и Барановичах речь зайдёт и о наиболее удачных конструкторских решениях.

И еще один вопрос, на мой взгляд, достойный внимания: о пожарной безопасности сушильных агрегатов. В Телеханах с пожарниками договориться пока не удалось, для этого требуется выполнить дополнительную теплоизоляцию места выхода печной трубы наружу.

Сколько местных блюстителей правил противопожарной безопасности, столько и мнений. Где-то без проблем пожарники подписывают акты приемки сушилок в эксплуатацию, а где-то это выливается в длительный процесс.

**Г. МАЕВСКАЯ.**

● АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?



# ДАРАГІЯ РАЗМОВЫ? АЛЕ ЁСЦЬ І ЛЬГОТЫ

***З задавальненнем чытаю „Газету Уладзіміра Кудзінава". Шчыра кажу вам дзякуй за прафесіяналізм і старannасць, з якімі вы, журналісты, робіце сваё незалежнае выданне. Вялікая просьба да вас: друкуйце больш матэрыялаў з карыснымі парадамі хатнім гаспадыням, агароднікам, садаводам.***

***А званю я вам яшчэ і для таго, каб вы ў сваёй газеце расказалі пра тое, якія існуюць расцэнкі на аплату хатняга тэлефона і размоў па ім. Спадзяюся, што такая інфармацыя спатрэбіцца не толькі мне адной, але і іншым чатачам вашай газеты, хто мае дома ці ў сваёй кватэры тэлефон.***

***В. І. МАРОЧКА.***
***в. Быцень.***

Паважаная Вера Іванаўна, з ахвотай выконваем Вашу просьбу. Што датычыць абанентаў Быценскай АТС, для іх аплата застаецца ранейшай – 30 тыс. руб. у месяц, для іншых у сувязі з уводам з 1 кастрычніка г. г. пачасова ўліку кошту мясцовых размоў зменшана да 20 тыс.

Дадамо да гэтага, што ўзняліся і тарыфы на аплату міжгародніх тэлефонаў. Сёння адна хвіліна тэлефонных перамоў з абанентам, які знаходзіцца па-за межамі нашага раёна, каштуе па вобласці 750 і па рэспубліцы – 1500 рублёў. Калі ж вы будзеце тэлефанаваць са свайго хатняга апарата ў выхадныя і святочныя дні ці ў будзённыя дні пасля 23-х гадзін да 6-ці гадзін раніцы, дык вам прыйдзецца заплаціць за такія размовы ў два разы менш, ужо па льготнаму тарыфу.

Карыстаючыся выпадкам, паведамляем для тых людзей, якія пажадалі мець хатні тэлефон (дарэчы, па раёне пададзена больш за 4 з паловай тысячы заяў з просьбай устанавіць тэлефонны апарат), што аплата за ўстаноўку тэлефона не змянілася і складае 500 тысяч рублёў у горадзе і 250 тысяч у вёсцы.

